

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠĆYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13 b) München 15, Pettenkoferstr. 23/I.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
**Банкавае конто:** Administration der weissruthenischen Zeitung „Baćkauscyna“ Bankkontonummer 357-125 Bayerische Hypotheken- und Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 4-5 (234-235) Нядзеля 30 студзеня 1955 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 9

# Стратэгія адплаты й палітыка адстрашваньня

Найважнейшай падзеяй першых тыдняў новага 1955 году было афіцыяльнае абвешчаньне і спрэцызаваньне новых стратэгічных плянаў Амэрыкі і выплываючае зь іх новае палітычнае тактыкі ў дачыненьні да Савецкага Саюзу й сусьветнага камунізму, тактыкі адстрашваньня.

У традыцыйным навагоднім пасланьні «аб стане Вуніі», асабіста адчытаным 6 студзеня перад абедзьвюма палатамі Кангрэсу прэзыдэнтам Айзэнгаўэрам, быў найбольшы паложаны націск на справы вайсковага плянаваньня. Яны былі спрэцызаваныя ў наступных пунктах:

1. Здольнасьць безадкладнага контрудару із зьнішчаючай сілай у вадказ на варожую атаку.

2. Уніканьне пераўвялічанага пяршынства аднаго аружжа або пяршынства аднаго роду плянаваньня.

3. Зраўнаважанае й элястычнае вайсковае плянаваньне, якое кладзе асаблівы націск на лётніцтва, новае аружжа, кантынэнтальную абарону і «стратэгічную канцэнтрацыю» сілы шляхам перастаноўкі некаторых сілаў».

4. Палепшаньне й расшырэньне ўзбраеньня сілаў наземных, морскіх і паветраных атамным аружжам.

5. Выдайнасьць і камбінаваньне для запэўненьня, што праграма ўзбраеньняў будзе рэалізаваная «з году ў год аж пакуль міне загроза агрэсіі».

З гэтых пяцёх пунктаў выплываюць два важныя мамэнты новае амэрыканскае стратэгіі: **папершае, кладзецца націск на лётніцтва й атамнае аружжа; падругое, на стратэгію безадкладнай зьнішчальнай адплаты пры помачы атамнага бамбардаваньня.**

Але раўначасна з разбудовай лётніцтва мае быць зьменшаны на 25% лічбовы стан наземных збройных сілаў. Паймена, на працягу найбліжэйшых 18 месяцаў наземная армія мае быць зьменшаная на 400.000 жаўнераў, ваенны флёт мае астацца на ўзроўні дасюлешняга лічбовага стану, а лётніцтва мае быць павялічанае на 14.000 жаўнераў. Разам з гэтым мае шыбкімі тэмпамі расьці прагрэс тэхнічны, у тым ліку й перадусім атамнае ўзбраеньне ўсіх родаў аружжа.

На першы пагляд магло-б выдавацца, што як можна гаварыць аб стратэгіі адплаты й палітыцы адстрашваньня, калі колькасьны стан арміі мае быць значна зьменшаны, а, як паведаміў прэзыдэнт Айзэнгаўэр 17 студзеня, маюць быць таксама зьменшаныя дзяржаўныя выдаткі на абарону ў гэтым годзе на адзін мільярд і 100 мільёнаў даляраў?

Увесь сакрэт такога стратэгічнага пляну палягае на тым, што Амэрыка на ўсякую варожую атаку будзе наважанай адказаць не контрударам сіламі канвэнцыянальнага аружжа, пры якім адну з асноўных роляў адыгрывае колькасны стан жаўнераў, але ўсякімі відамі новае зброі, галоўнае атамнае.

Як ведама, сяньня пераважае ў цэлым сьвеце пагляд, што Савецкі Саюз новай сусьветнай вайны ў бліжэйшым часе выклікаць не адважыцца. Затое ў плянах як Масквы, гэтак і Пэкіну дапускаюцца г. зв. войны пэрыфэрыйныя, як нядаўныя карэйская й індакітайская, так як войны такія прынесьлі камуністым вялікія сукцэсы бязь ніякае рызыкі. Вось-жа новыя амэрыканскія стратэгічныя пляны прадбачаць, што на такую ваенную правакацыю Амэрыка адкажа бліскавічнай і безаглядна паводля сілы зьнішчэньня атамнай атакай ня толькі супраць непасрэднага агрэсара, але й агрэсара пасярэднага, г. зн. Савецкага Саюзу або камуністычнага Кітаю. У гэтым сэньсе інтэрпрэтуе новую амэрыканскую стратэгію добра паінфармаваны ангельскі «Таймс», які піша: «Задзіночаныя Штаты што раз выразьней думаюць, што калі выбухне вайна, дык яна будзе ведзеная пры помачы лётніцкіх сілаў і атамнага аружжа. Іншымі словамі, Задзіночаныя Штаты, здаецца, думаюць галоўна аб вялікай вайне, а не аб лякальных абаронных войнах тыпу карэйскай і індакітайскай».

Моднае сяньня слова «коэгзыстэнцыя» прэзыдэнт Айзэнгаўэр замяніў выражэньнем «stalemate» (стэлмэйт), якога адным словам перакласьці на беларускую мову нельга. Яно абазначае неразыграную або мёртвы пункт у шахматнай ігры, калі ніводзін з бакоў ня можа пайсьці ніякай фігурай, бо ў праціўным выпадку прайграе. Падобная сытуацыя была на франтох змаганьня падчас першай сусьветнай вайны. Абодвыя бакі мелі магутныя сяродкі абароны, але ніводзін ня меў дастатковых сяродкаў наступу, каб зламаць сілу праціўніка. З гэтага паўстала доўгая пазыцыйная вайна, аж Брытанцы выпрадукавалі танк, які перацягнуў у іхную карысьць раўнавагу сілаў, і вайна хутка была закончаная.

Падобная сытуацыя й сяньня. Абодвыя бакі маюць магутныя сяродкі зьнішчэньня, але ніводзін зь іх ня можа адважыцца іх ужыць, баючыся такой-жа зьнішчальнай адплаты праціўніка. Вось-жа кладучы асаблівы націск на атамнае аружжа і грозячы безадкладным яго масавым зьнішчальным ужыцьцём у выпадку кажнай справакаванай агрэсіі, прэзыдэнт Айзэнгаўэр уважае, што такой стратэгіяй адплаты і палітыкай застрашваньня яму ўдасца запалохаць Саветаў перад намерам усякай, навет пэрыфэрыйнай агрэсіяй, і ўсьцерагчы людзкасьць перад новай сусьветнай вайной. Гэта была-б сытуацыя, якую ў сваім калядным пасланьні Папа Пій XII назваў вельмі добра «коэгзыстэнцыяй у страху».

Ня выключана, што такая палітыка на нейкі час будзе мець свой эфэкт. Але нельга дапускаць, што можа яна цягнуцца ў бесканечнасьць. Само сабой зразумела, што такая палітыка мусіць яшчэ больш павялічыць перагонкі ўзбраеньняў. Абодвы бакі будуць усімі сіламі імкнуцца да здабыцьця перавагі над праціўнікам, абодвы будуць змушаныя руйнаваць сваю народную гаспадарку на ваенныя мэты. І як падчас першае вайны з замарожанага палажэньня на франтох вывяў брытанскі танк, гэтак і цяпер можа быць вынайдзены нейкі новы сяродак зьнішчэньня такой фантастычнай сілы, што перавага аднаго з праціўнікаў будзе бяссумлеўная. І што будзе тады, калі гэтакае эвэнтуальнае новае аружжа будуць мець Саветы, а ня Захад? Такое-ж самае пытаньне ўжо ставілася ня раз, што магло-б стацца, калі-б не Амэрыка, але Савецкі Саюз першым выпрадукаваў атамную бомбу?

Адказ на гэтае пытаньне ясны. **(-іч)**

# Аб патрэбе дакумэнтацыі

Беларус — чалавек сьціплы, сьціплы часам аж да сарамязьлівасьці. Сьціплы нат тады, калі ведае, што гэтая сьціпласьць яму бокам вылезе. Натура, што ты зробіш!..

Сьціпласьць — шляхотная рыса характару. Аднак бяда, калі, падмацаваная блізарукасьцяй і гультайствам, яна пачынае пераходзіць у шкоднасьць.

Аднойчы я чуў, як адзін сьведамы й вельмі грамадзка-актыўны чалавек аж распасьціраўся ў довадах перад сваім сябрам, што рабіць то трэба грамадзкую работу, але пашто аб усім гэтым расьпісвацца па газэтах і часапісах, расьпісвацца аб самым сабе. І ў шчырасьці ягоных слоў вычувалася цьвёрдае перакана初ньне, што самому аб сабе й аб сваёй рабоце пісаць ніяк ня выпадае. Далей за гэта ён нічога ня бачыў, і наперад думкамі кідацца не хацеў.

Успомніў я аб гэнай дыскусіі шмат пазьней, калі мне папаліся былі ў рукі гадавікі старых віленскіх газэт. Зь якой асалодай і набожнай асьцярожнасьцяй перагортваў я пажоўклыя балоны гэтых жывых сьветак мінулага. Там былі перадавіцы, агляды, артыкулы, дыскусіі, хроніка — як і сяньня. Аднак у гадавіках гэных было штосьці асабліва сьвежае, што адразу прыцягнула маю ўвагу. Гэта была хроніка. У кажным нумары газэты яна займала бадай усю апошнюю бачынку газэты, і відаць было, што апрацоўвалася стараннаю рукою. Вочы не маглі адарвацца ад жывых абразкоў з жыцьця беларускае Вільні. Я прагна глытаў цэлыя радкі й абзацы: лісты ў рэдакцыю, дапіскі, паведамленьні, весткі пра імпрэзы, уражаньні, абмяркоўваньні цяжкасьцяў і посьпехаў тагачаснага грамадзкага жыцьця і шмат падобнага.

Пасьля колькіх дзесяткаў прачытаных нумароў газэты ў мяне стварыўся даволі выразны вобраз ня толькі тагачаснае беларускае Вільні, але наагул бадай усяго беларускага жыцьця ў гэную чужую мне эпоху.

Бачынка хронікі галоўным чынам і цікавіла мяне. Яна выдавалася мне маладзейшай і жывейшай за ўсе іншыя. Ня ведаю чаму — мо таму, што на ёй засталіся сьляды жыцьця, сьляды клопатаў, хваляваньняў, дасягненьняў; мо таму, што ўсё гэта было напісана простай беспасрэднай мовай, з чаго вычуваўся чалавек у няспыннай акцыі і ў ягоным імкненьні да нейкае мэты; мо ўрэшце таму, што ў радкох гэных ня было ні напышаных разважаньняў, ні ўрачыстага тону, а коратка й рэчова гаварылася аб фактах і дзеях.

Праз колькі тыдняў, праходзячы праз бібліятэку, я ўгледзеў незнаёмага старэйшага ўжо дзядзьку, сьхіленага над віленскімі гадавікамі. Што за ён? Цікава, чаго ён шукае там? Я падыйшоў бліжэй.

— Выбачце, вы гутарыце пабеларуску?

— Так! — адказаў ён мне пасьля кароценькае паўзы.

— Я, — кажу яму, — зусім прыпадкова напароўся быў на гэтыя газэты. У іх, між іншага, ёсьць шмат цікавага. Вы, бачу, зусім грунтоўна перачытваеце іх.

— А я вось цікаўлюся беларускім жыцьцём апошніх дзесяцігодзьдзяў, — адказвае мой незнаёмы ня зусім чыстай беларушчынай. — У вас там у Вільні калісьці шмат чаго рабілася. Вы, ясна, ня памятаеце ўсяго.

Аказалася, што гэта быў Немец-журналісты. Ён цікавіўся беларускімі пытаньнямі, недалёкім мінулым і сквапна хапаўся за кажную вестачку, якая гаварыла яму аб нечым канкрэтным. Разьвітваючыся зь ім, я быў неяк падзіўнаму рад за віленскія гадавікі і за іхную багатую хроніку.

*

Сяньня пераглядаў гадавікі «Бацькаўшчыны». Стараўся ўявіць сабе, як, паводля зьмешчаных у газэце вестак, будзе выглядаць вобраз беларускае канкрэтнае работы на эміграцыі ў вачох таго, каму сяньняшнія рэчы будуць далекаватай мінуўшчыняй (як мне гэны віленскі пэрыяд, адтвораны пры дапамозе пакінутае хронікі) або ў паняцьці таго, каму (як гэнаму Немцу-журналісту) пытаньне беларускае эміграцыі будзе наагул новым зьявішчам. Ці памылімся, калі скажам, што ўжо сяньня ёсьць шмат дасьледвальнікаў нашага нацыянальнага патэнцыялу?

Пераглядаю гадавікі «Бацькаўшчыны» і шкадую, што ўсё-ж столькі прыгожых рэчаў — сьветкаў нашае працы, сілы й росту — пайшло ў нябыцьцё. А цяпер і ўспомніць ужо цяжка: дзе? калі?..

У нечалавечым высілку мы рабілі, раськідалі энэргію, і часта дарма, бо наш прыклад і ахвяра ня ўзбудзяць запалу ў нашых наступнікаў, таму што часта па сваёй працы мы нат сьлядоў не змаглі пакінуць. І беларускай справе (яна-ж і пасьля нас будзе існаваць) шмат не далічаць тыя, што яе дасьледваць некалі будуць.

Дык ці ня варта было-б задумацца над апошняй бачынкай газэты, над хронікай, над дакумэнтацыяй нашых дробных невялічкіх і большых дасягненьняў, якія мы накіроўваем да аднае вялікае мэты.

**Янка З.**

# Узбуйненьне узбуйненых калгасаў

Весткі, якія можна здабыць з савецкай прэсы і радыя, аднагодна гавораць за тым, што ў галіне сельскае гаспадаркі адбываюцца й надалей важныя працэсы ў кірунку поўнага ператварэньня сельска-гаспадарскіх адзінак — калгасаў у вялікія, кантраляваныя партыяй і ўрадам хвабрыкі сельскагаспадарскіх прадуктаў, а калгасьнікаў — у звычайных сельскагаспадарскіх работнікаў-парабкоў. Розьніца між гэтымі апошнімі і сельскагаспадарскімі парабкамі ў перадкалектывізацыйны і дарэвалюцыйны пэрыяд тая, што калі апошнія цешыліся неабмежаванай асабістай свабодай і маглі зьмяняць месца сваей працы, дык першыя зьяўляюцца прымусова прымацаванымі да сваіх калгасаў і накінутага ім характару працы, будучы такім чынам у палажэньні дзяржаўнага прыгону.

Працэс такога запрыгоненьня сялянства й ператварэньня сельскае гаспадаркі з прыватна-собсьніцкай у калектыўна-дзяржаўную, — хаця ў тэорыі яна зьяўляецца коопэратыўнай, а землі паводля савецкіх законаў аддадзеныя ў вечнае карыстаньне паасобным калгасам, — увайшоў сяньня ў трэйцюю і, трэба думаць канчатковую фазу.

Першай такой фазай была масавая ў тэорыі дабравольная, але ў запраўднасьці безаглядна прымусовая калектывізацыя сельскае гаспадаркі, якая распачалася ў 1929 годзе, а ў наступным 1930 годзе дасягнула свайго найвышэйшага пункту. Гэта быў нязнаны ў гісторыі гігантычных разьмераў пераварот, які на працягу пары год зьнішчыў вякамі ўстаноўленую сыстэму сельскае гаспадаркі, самым грубым спосабам стэрарызаваў прыватна-собсьніцкую псыхалёгію селяніна і фізычна зьнішчыў або асудзіў на фізычнае вынішчэньне цэлыя мільёны найбольш перадавога сялянства шляхам «раскулачваньня» і «ліквідацыі кулацтва, як клясы».

У 1950 годзе распачынаецца новая фаза, ня менш гвалтоўная і радыкальная чымся першая, ведамая пад назваю ўзбуйненьня калгасаў і тварэньня г. зв. аграгарадоў. Гэтак першы сакратар ЦК Камуністычнай Партыі Беларусі М. Патолічаў на VIII пленуме, які адбыўся 12—14 лютага 1951 году, паведаміў: «на базе 9.770 дробных калгасаў, якія былі ў усходніх акругах на 1 студзеня 1950 году, к сучаснаму мамэнту (г. зн. на 15 лютага 1951 году) створана 3.228 аб'ядназных калгасаў і ў заходніх акругах рэспублікі, дзе на базе 1.472 дробных калгасаў створана 624 аб'ядназныя калгасы» («Зьвязда» за 15 і 16 лютага 1951 г.). Такім чынам у ўсходніх акругах БССР на адзін узбуйнены калгас у сярэднім прыпадала тры дробныя калгасы, а ў заходніх акругах — два й адна трэйцяя. Гэтая рэканструкцыя калгасаў шляхам іхнага ўзбуйненьня прынесла далейшыя абмежаваньні калгасьнікам, а калгасы прыбліжыла да саўгасаў. Калі раней калгасьнік меў яшчэ прысялібны надзел для собскага карыстаньня, мог трымаць адну карову і іншую дробную жывёлу, дык цяпер, хаця тэарэтычна гэтыя правы асталіся за ім, то практычна, жывучы ў многалюдных пунктах узбуйненага калгасу, з гэтага права было яму карыстаць шмат цяжэй.

Апошнімі тыднямі прыйшлі да нас весткі, што распачалася ўжо новая, гэтым разам трэйцяя радыкальная рэканструкцыя сельскае гаспадаркі, якую можна назваць узбуйненьнем ужо ўзбуйненых калгасаў.

Гэтак 10 сьнежаня 1954 году радыё Белгарад паведаміла, што ў вадным раёне Белгародзкай акругі задзіночыліся тры ўзбуйненыя калгасы: імя Карла Маркса, імя Андрэева і «Шлях Леніна». Зямельная плошча паўторна ўзбуйненага калгасу выносіць цяпер 15.000 гэктараў. Тое-ж радыё паведаміла, што ў раёне праводзіцца ўзбуйненьне і іншых калгасаў. Зразумела, што Белгародзкая акруга не зьяўляецца нейкім выключэньнем. Шляхам такога ўзбуйненьня зямельная плошча калгасаў даводзіцца цяпер да 15—25.000 гэктараў у залежнасьці ад мясцовых умоваў. Аб тым, што такое ўзбуйненьне праводзіцца па ўсей тэрыторыі Савецкага Саюзу і ўжо дасягнула значных вынікаў, гавораць іншыя афіцыяльныя дадзеныя.

На пленуме ЦК КПСС 3 верасьня 1953 г. Хрушчоў у сваім дакладзе сказаў: «Сацыялістычная сыстэма ў нашай краіне ўключае ў сябе цяпер 94 тысячы калгасаў, 8.500 МТС і звыш 4.000 саўгасаў». Але ўжо ў лістападаўскім нумары «Камуніста» за 1954 год паведамлялася, што «ў цяперашнім часе ў краіне налічваецца амаль 90 тысяч калгасаў, звыш 9 тысяч МТС, каля 5 тысяч саўгасаў». Такім чынам за 14 месяцаў колькасьць калгасаў уменшылася больш чымся на 4 тысячы, так як у лістападзе 1954 г. было калгасаў трохі меней чымся 90 тысяч у параўнаньні з 94 тысячамі ў верасьні 1953 году.

Трэба думаць, што ўзбуйненьне калгасаў будзе прадаўжацца да таго часу, пакуль паводля разьмераў зямельнай плошчы яны будуць даведзены да разьмераў саўгасаў, г. зн. да практычна магчымых максімальных разьмераў.

Раўналежна з працэсам узбуйненьня калгасаў заўважваецца выразная тэндэнцыя пашырэньня саўгасаў за кошт калгасных земляў. Гэта асабліва мае месца на г. зв. цалінных землях. Газэта «Комсомольская Правда» за 3 верасьня 1954 году ў № 235 у артыкуле «Ідзём наперад» паведаміла, што «сход калгасьнікаў нядаўна аднагалосна пастанавіў аддаць будучаму зернясаўгасу 9 тысяч гэктараў нявыкарыстанай зямлі». Гэты выпадак меў месца ў Акмолінскай акрузе Казахскай ССР. Нядаўна маскоўскае радыё паведаміла, што на землях Заволжа створана новых 8 саўгасаў. Тое-ж маскоўскае радыё 5 студзеня 1955 году хвалілася, што саўгасы асвояць звыш 300 тысяч гэктараў, у тым ліку звыш 100 тысяч гэктараў цаліны. Такім чынам у новазарганізаваных саўгасах толькі 100 тысяч гэктараў будзе цалінных земляў, а асталыя 200 тысяч гэктараў, відаць, належылі калгасам.

Яшчэ адзін мамэнт у працэсе рэканструкцыі калгасаў заслугоўвае на асаблівую ўвагу. Гэта тое, што роля МТС (машынна-трактарных станцыяў) цяпер непамерна павялічылася. Цяпер МТС нясуць большую адказнасьць за ўсе кірункі сельскагаспадарскіх работаў у калгасах, чымся ўправы калгасаў. МТС забавязаныя распрацоўваць пляны калгасных работ, састаўляць вытворчыя і прыходна-расходныя бюджэты, гадавыя справаздачы. Як паведамляе часопіс «Сельское Хозяйство» за 15 ліпеня 1954 году, на іх узложаны абавязак прыймаць меры ў кірунку павышэньня вытворчасьці працы, навет весьці ўлік і кантролю важаньня збожжа. Больш таго, у МТС перамешчаны на палажэньне сталых работнікаў адзін мільён з чэцьверцю трактарыстых. Апошнім часам у МТС праводзіцца вялікае будаўніцтва майстэрняў, гаражоў, бытавых установаў, у тым ліку і жыльлёвых памяшчэньняў. Таксама будзе расьці кіраўнічая роля

(Заканчэньне на 6-ай балоне)

# Ці затрушаны агонь?

**АД РЭДАКЦЫІ: У «Сацыялістычным Весьніку» за сьнежань 1954 году паявіўся пад вышэйшым загалоўкам артыкул рэдактара гэтага часапісу Р. Абрамовіча, у якім аўтар прадстаўляе ўсю загрозу сучаснага палітычнага палажэньня і паказвае, якім спосабам можа вольны сьвет яшчэ выратавацца перад навісшай катастрофай. З гледзішча на актуальнае значэньне гэтага артыкулу, ніжэй знаёмім зь ім нашых чытачоў, хаця з вывадамі аўтара, які ваенную й тэхнічную перавагу Захаду ўважае за дастатковую перадумову, каб абараніцца перад камуністычным наступам, абсалютна не згаджаемся. Мы стаім на становішчы, што, апрача перавагі ваенна-тэхнічнай, ёсьць неабходнай і перавага ідэі, ды ідэялягічны наступ супраць камунізму ў цяперашняй псыхалягічнай вайне.**

✶

«Баюся, што агонь ужо затрушаны і патушыць яго ня ўдасца», — піша нам з Эўропы стары прыяцель, няпрымірлівы праціўнік савецкай дыктатуры, чалавек, які ўладае некалькімі мовамі і які вельмі ўважна сочыць за палітычным разьвіцьцём сьвету. Пэсымізм нашага прыяцеля не зьяўляецца дзеля гэтага прадуктам абыякавых дачыненьняў да справы. Калі падсумаваць рэзультаты халоднай вайны за мінулае з часу заканчэньня Другой Сусьветнай Вайны дзесяцігодзьдзе, дык абаснаваньняў для найбольш панурых прадбачваньняў ня мала. Параўнайма на карце сьвету граніцы камуністычнай сфэры і некамуністычнай у 1945 годзе і цяпер; або возьмем індэксы ваеннай прадукцыі абедзьвюх сфэраў, колькасьць самалётаў і, яшчэ важней, колькасьць хвабрык і заводаў, якія прадукуюць кіраваныя стрыльны і самалёты, атамныя й вадародныя бомбы; або прааналізуем стан флётаў і наземных войскаў у вабодвых лягерах, або ўлічым арганізаванасьць і канцэнтрацыю прапаганднай і падрыўной работы тут і там, у «іх» і ў «нас», — усё дае абраз бесьперапыннай гігантычнай і грознай экспансіі сусьветнага камунізму і бесьперапыннага адступленьня дэмакратычнага сьвету на ўсей зямной кулі.

І паасобныя частковыя ўдачы дэмакратычнага сьвету ў сваей абароне (усюды толькі абарона, нідзе ніколі ні найменшага контрнаступленьня) гэтага абраза не мяняюць. Ні станоўчае выступленьне ЗША, Вялікабрытаніі й іншых дзяржаваў у 1946 годзе супраць камуністычнай спробы перавароту ў Іране, ні пратэсты дэмакратычных краінаў з прычыны перавароту ў Чэхаславаччыне або нарушэньня ялтанскіх дагавораў у Польшчы, Румыніі й іншых сатэлітах, ні навет вайна ў Карэі, дзе Амэрыканцам зь вялікімі ахвярамі крывёю сваіх сыноў удалося адбіць наступленьне паўночна-карэйскіх і кітайскіх камуністых, падтрымліваных авіяцыяй і артылерыяй Масквы, і ўстанавіць статус кво, ні капітуляцыя саюзьнікаў у Дыен-Біен-Пфу і навет не пасьпяховы контрпераварот у Гватэмалі і, дабавім, навет ні пратэст бальшыні Асамблеі ЗН супраць бясправунага асуджэньня за шпіянаж адзінаццацёх лётнікаў у ваеннай форме — не мяняюць гістарычнага сэнсу таго, што цяпер у сьвеце дзеіцца. Лявіна сусьветнага камунізму непаўстрымана сунецца наперад, расшыраючы сваю сфэру, звужаючы й робячы больш цяжкай стратэгічную сытуацыю дэмакратычнага й некамуністычнага сьвету.

Гістарычным агрэсарам зьяўляецца ўзначальваны Масквой і Пэкінам сусьветны камунізм, — страшная канцэнтрацыя амаль мільярда чалавек, якія ліхарадкава ўзбройваюцца для далейшай агрэсіі й экспансіі. СССР зьяўляецца цяпер наймагутнейшай дзяржавай сьвету ў галіне ваеннай авіяцыі: паводля афіцыяльных дадзеных аўтарытэтнага штогодніка Джэйнс, колькасьць ваенна-авіяцыйных заводаў дасягае там 360, пры чым паводля думкі найбольш буйных заходніх спэцыялістых савецкія бамбавозы далёкага палёту, прадэманстраваныя ў Маскве на травенскім парадзе мінулага году, ня толькі здольныя ськівнуць атамную бомбу над ЗША, але й лепшыя за ўсё тое, чым заходнія дзяржавы распараджаюцца наагул. Брытанскі адміралітэт уважае, што і ў сэньсе ваеннага флёту СССР апэрадзіў вялікую калісьці морскую дзяржаву — Вялікабрытанію і ў прыватнасьці колькасьць моцных крэйсэраў у СССР цяпер большая, чымся ў Ангельшчыне (30 супраць 26 ангельскіх). Такім чынам СССР зьяўляецца другой дзяржавай сьвету пасьля ЗША паводля колькасьці ваенных караблёў, ня лічучы 4.000 падводных лодак (Нямеччына ў найлепшыя для яе часы ня мела й дзесятай часьці гэтае колькасьці). Дык ці патрэбна прыбаўляць да гэтага, што СССР разам з сатэлітамі мае ў Эўропе 200 гатовых да безадкладнага выступленьня і поўнасьцю выэкіпаваных дывізіяў, між тым як усё новыя мільёны кітайскіх, індакітайскіх і іншых жаўнераў сьпешным парадкам абвучаюцца да змаганьня за камунізм у Азіі.

Калі-б не захаваная некаторая перавага Вялікабрытаніі й ЗША ў галіне атамнай энэргіі і кіраваных стрыльнаў, дык людзкая й ваенная перавага камуністычнага блёку над заходнім сьветам ужо дасягнула такой ступені, што вось Масква—Пэкін была-б у сілах проста дыктаваць свае ўмовы дэмакратычнаму сьвету, не баючыся спаткаць больш-менш сур'ёзнага супраціву. Але навет і так, дзякуючы зусім хвальшывай палітыцы, дэмакратычны сьвет прымушаны адступаць шаг за шагам і цярпець адну ваенную й дыпляматычную няўдачу за другой.

Весткі, што прыходзяць з паўдзённага Ветнаму, створанага пад уплывам камуністычнага ультыматуму на Жэнэўскай канфэрэнцыі, аднагалосна пацьвярджаюць, што на працягу бліжэйшых месяцаў паўдзённы Ветнам пападзе ў рукі Го-Чы-Міна бязь ніякага змаганьня, як сьпелы плод. За гэтым тое-ж станецца з Камбоджай і Ляёсам, а за імі з Сыямам. Ня менш трывожныя весткі прыходзяць і зь Інданэзіі. Кіруючая партыя нацыяналістых у сваім змаганьні супраць музульманскай партыі пайшла на блёк з камуністымі, і апошнія цяпер дзякуючы гэтаму змаглі заняць выключную пазыцыю ў палітычным жыцьці гэтай востраўнай дзяржавы, у якой 80-мільённае насельніцтва дзеліцца на мноства моваў, рэлігіяў і культураў. Добра асьведамленыя замежныя карэспандэнты пішуць зь Інданэзіі, што на бліжэйшых выбарах камуністыя праўдападобна атрымаюць значнае прадстаўніцтва ў парляманьце й зоймуць у ўрадзе важнае месца. Гэта будзе, як ужо ня раз бывала ў іншых краінах, першай ступенькай да пераходу ўлады ў рукі камуністых шляхам чэхаславацкім, польскім ці румынскім.

Але зь пераходам у камуністычную сфэру ўсяго Індакітайскага паўвострава зь ягонымі нявычэрпнымі прыроднымі багацьцямі, і цэлага ланцуга трох тысяч астравоў, што складаюць Інданэзію, таксама багатую прыроднымі рэсурсамі ў ня меншай ступені, чымся Індакітай, — эканамічная й стратэгічная пазыцыя камуністычнага блёку павялічыцца ў вялізарнай ступені. Фактычна ўвесь азіяцкі кантынэнт цераз кароткі час акажыцца ў руках сусьветнага камунізму, і тады ўзапраўды «агонь будзе затрушаны»...

✶

Але цяпер, нам здаецца, яшчэ няма падставаў расцэньваць пэрспэктывы й шансы дэмакратычнага сьвету аж гэтак пэсымістычна. Палажэньне можа быць уратаванае, калі дэмакрацыі, і, у першую чаргу, ЗША закасуць рукавы і з усей энэргіяй возьмуцца, не шкадуючы сяродкаў і сілаў, за прывярненьне сваей ваенна-тэхнічнай перавагі. Наўсуперак пагляду, падтрымліванаму нядаўна знаным лётнікам Ліндбэргам, што «супраць атамнай атакі няма абароны», урады ЗША й Канады зь некаторым спазьненьнем, але ўсё-ж такі ўзяліся за стварэньне гігантычнай сеці паветрана-радарных загараджэньняў уздоўж усяго перад-палярнага пояса. А наш суродзіч, ведамы авіяцыйны канструктар А. П. Северскі ў палеміцы супраць Ліндбэргa цьвердзіць, што такая абарона зусім магчымая, і дае ў журнале «Вік» агульныя абрысы такой абароны. На ягоную думку, неабходна перабудаваць усю сыстэму абароны, паставіць у цэнтры ў шмат большай ступені, чымся дагэтуль, усе апошнія заваяваньні авіяцыі й тэхнікі.

Цывільным людзям цяжка судзіць, хто мае рацыю ў гэтай спрэчцы. Але ў кажным выпадку, поўнасьцю бясспрэчна, што палітыкай абрэзваньня бюджэтаў на абарону можна толькі прыблізіць час камуністычнага трыумфу. Праўда, прэзыдэнт Айзэнгаўэр, здаецца, тэй думкі, што сыстэма збройнага міру будзе трываць дзесяцігодзьдзі. Ён навет на апошняй канфэрэнцыі з журналістымі заявіў, што гэтая эпоха можа прадоўжыцца 50 год. І на працягу ўсіх гэтых дзесяцігодзьдзяў у сьвеце будуць стаяць адзін супраць другога два да зубоў узброеныя лягеры, вынаходзячы й прадукуючы ўсё новыя й больш дасканалыя сяродкі зьнішчэньня, але не адважваючыся перайсьці Рубікон.

(Заканчэньне на 5-ай балоне)

# Дзедка за рэпку, бабка за дзедку, унучка за бабку...

На Беларусі ўжо ад каторага часу вядзецца інтэнсыўная акцыя супраць п'янства. Па сіле антыалькагольнае прапаганды можна меркаваць і аб сіле самога алькагалізму. Як відаць, гэты апошні зусім «стаў на ногі», і зь ім цяжкая рада. Карэньне гэтага страшнага зьявішча — ня тайніца — у гэнай бядоце й нястачах насельніцтва, якому гарэлка, а яшчэ больш самагон, служаць «закрасай» жыцьцёвае галечы або зьяўляюцца спосабам дабычы капейкі ці проста спэкуляцыі.

Ліквідацыі п'янства ня судзейнічаюць і такія зьявішчы, як вось ніжэй пададзенае, узятае із «Зьвязды» з 30. XII. 54:

«Закусачная № 1 Слуцкага Горхарчпромгандлю. Тут рэдка калі можнаastаць гарачую страву. Ад буфэтчыцы толькі адно й чуеш:

« — Прадуктаў у мяне мала, ня хопіць для закускі.

«Вось зайшлі ў закусачную трое калгасьнікаў. Яны папрасілі падаць ім па порцыі смажанага мяса і па 200 грамаў хлеба.

« — А якое віно загадаеце: „вэрмут" ці „партвэйн"? — з прытворнай усьмешкай спытала буфэтчыца. — Не пашкадуеце, градусы моцныя.

«Не дачакаўшыся адказу, буфэтчыца тут-жа адкрыла бутэльку:

« — Вам па 150 ці па 200?

« — Прабачце, калі ласка, мы паабедаць зайшлі, — сказалі ў вадзін голас калгасьнікі.

« — Тут для вас не сталовая, — грозным тонам заявіла буфэтчыца, — шукайце сабе абеду ў іншым месцы...

«Нічога не дабіліся калгасьнікі і ў закусачнай № 11. І тут ім прапанавалі спачатку выпіць, а потым закусіць.»

Калі ў калгасьнікаў гэтых хапіла яшчэ цярплівасьці хадзіць і па слуцкіх сталовых, дык невядома, ці й там, акрамя выпіўкі афіцыянткі прапанавалі ім штонебудзь. Пры гэткіх настойлівых «запросінах» да кілішка ня дзіва, што сёй-той і «дзёрне» па сотачцы-другой на галодны жывот — усё-ж калёрыі.

А культпроп цераз сваіх прапагандыстых даводзіць тымчасам тым-жа калгасьнікам, што алькаголь здароўю шкодзіць, што гэта буржуазныя перажыткі, рэлігійныя забабоны і гэтак далей на гэты манер.

Самае пашыранае аружжа ў барацьбе з п'янствам — гэта вечна тыя-ж даклады й лекцыі.

Здараецца часам — у Саветах гэтага ня купляць — што актывісты працьвярэзьвальнае акцыі, не дайшоўшы да месца антыалькагольнае лекцыі, сам засядзе падарозе ў кілішку, і тады або прыходзіць «працьвярэжваць» «пад шумком», або зусім не дапоўзвае да «фінішу».

Літаратары-ж, у сваю чаргу, заклíканы змагацца супраць гэткіх ненавісьнікаў алькаголю, якія ў барацьбе з грамадзкай хваробай, хочуць самі зьнішчыць-перапіць увесь корань зла.

Дзедка за рэпку, бабка — за дзедку...

Ніжэй зьмяшчаем гумарэску беларускага сатырыстага М. Скрыпкі (гл. часапіс «Беларусь» № 12 за 54 г., бач. 28), у якой трапна падхоплены адзін з мамэнтаў антыалькагольнага «маралізаваньня» на Беларусі:

**КАЛЯ РЭСТАРАНУ**

— Кульнём!
— Кульнём!
— Па дзьвесьце грам?
— Па дзьвесьце, больш ні грама.

Больш не хацелася сябрам
Ля ганку рэстарану.

— Браток, устаць дапамажы:
Дамоў пара, ня рана.
— Раз я ляжу, і ты ляжы!
Казаў-жа: больш ні грама!

— Табе лацьвей! Ты-б тут і спаў,
Абы не растапталі.
А я, брат, лекцыю праспаў.

Якую?
— Аб маралі.

**А. Будзіч**

---

нацыянальнае Беларусі, што неадхільна падтрымлівае дух вернага ёй адраджэнства й, разгортаючы поўную абнадзеі пэрспэктыву звароту «лёсу другога» ў выніку паўстаньня народнае стыхіі — «пушчы», нязьменна й нямінуча набліжаецца да канца, за якім — працяг «нясканчанага кругу» ранейшае паэтычнае нацыянальна-рэвалюцыйнае місіі адраджэнства ды ўзадзіночаньне яго з нацыянальнай Беларусяй у новым спатканьні зь ёю.

Гэтак выглядае тая «мараль», што выплывае з «казкі жыцьця», расказанай Коласам у першай рэдакцыі ягонага «Сымона Музыкі». Як бачым з накіданага намі абраза, уварваньне бальшавізму ў беларускую рэчаіснасьць зрабіла на Коласа цяжкое, гнятушчае ўражаньне проста ткі сьмяротнай небясьпекі для нацыянальнае Беларусі. Што ўяўленьне гэткага характару тае небясьпекі адначасна магло ня быць яшчэ ясным паэту да канца й здавацца яму часовым, можа навет неяк перабольшаным — зусім зразумела, калі ўзяць на ўвагу, што самая зьява, якая вытварыла такое ўражаньне, была, з аднаго боку, яшчэ занадта блізкая ў часе (дакладней — і зусім сучасная), а з другога — занадта далёкай у прасторы, недаступнай для беспасярэдняга назіраньня, паколькі Колас быў тады зусім адарваны ад Беларусі, жывучы ў глыбі Расеі, у вабставінах селавое глушы, блізу без усялякіх магчымасьцяў цясьнейшае лучнасьці ня толькі з адцятай і перанятай фронтамі бацькаўшчынай, але й з вонкавым сьветам наагул.

Адылі, у кажным разе, уражаньне было нагэтулькі магутным, мо яшчэ больш магутным дзеля тае няпоўнае яснасьці свае, што яно змусіла Коласа ня толькі паддацца яму й выявіць яго паэтычна, але навет, відавочна, адбілася й на самой чыста-вонкавай структуры твору: паэму, задуманую спачатку ў VI частках, пра што паведамлялася адразу-ж у ейным падзагалоўку, паэта закончыў на пятай частцы й якраз на адлюстраваньні ў ёй уварваньня бальшавізму зь ягонымі вынікамі. Можна меркаваць, што гэтая апошняя зьява таей сілаю й адначасна — няяснасьцяй, а то й проста — сілаю няяснасьці зробленага ёю ўражаньня магла засталучыць ад паэты бачаныя ім напачатку пэрспэктывы далейшага разьвіцьця й завяршэньня, што мелі-б стацца зьместам праектаванае VI часткі паэмы, магла зьмяніць ягоны пагляд на гэтыя пэрспэктывы, а тым самым і зусім адмяніць іх, дармо, што пры гэтым у самога аўтара й заставалася сьведамасьць нясконачанасьці сюжэту («круг ня скончыў свой Сымон»).

Гэтай апошняй сьведамасьцяй, нароўні із сьведамасьцяй тае-ж няяснасьці першага ўражаньня й ягонага выражэньня ды побач зь іншымі абставінамі, што маглі абуджаць у паэты пачуцьцё нездаволенасьці сваім творам, пэўна-ж абумаўляецца першым чынам зварот яго зь цягам часу да пераапрацаваньня паэмы, што скончылася стварэньнем новага тэксту яе.

☆

Гады паміж сканчэньнем першай рэдакцыі «Сымона Музыкі» й апрацаваньнем новае рэдакцыі яго — гады 1918—1925 — былі гадамі стабілізацыі як жыцьця самога Коласа ізноў на Бацькаўшчыне, так і жыцьця гэтае Бацькаўшчыны ў ейным пасьлярыскім падпольскім і падсавецкім стане. У працэсе гэтае стабілізацыі ўсё больш выясьняліся пэрспэктывы долі тае «Маладое Беларусі» — нацыянальнае Беларусі, што, як мы бачылі, былі зусім няясныя Коласу ў часе канчаньня ім першае рэдакцыі паэмы; разам з гэтым выясьніліся й пэрспэктывы ролі зьвязанага з гэнай «Маладой Беларусяй» адраджэнскага паэты. Гэтае выясьненьне таксама не магло ня вызначыць сабою характару новае рэдакцыі паэмы, прынамся ў ейнай завяршальнай частцы, а навет, фактычна, найбольш і выклікала самую патрэбу гэтае новае рэдакцыі.

Нарэшце, у гэтых гадох стабілізацыі ў падсавецкай Беларусі, што сталася аселасьцяй Коласа, устабілізаваўся й яшчэ адзін фактар, што накладаў свой адбітак наагул на кажны мастацкі твор, якому даводзілася зьяўляцца на сьвет у гэтай частцы Беларусі — фактар бальшавіцкае цэнзуры літаратуры, тады яшчэ ў сьціслым разуменьні гэтага слова, а ня ў сэньсе пасьлейшага ўсеабсяжнага «кіраўніцтва літаратуры», зародак ці нат першая стадыя якога ўжо караніліся й тут. Уся першая рэдакцыя «Сымона Музыкі» й пісалася й друкавалася вонках дзеяньня гэтага фактару: да кастрычніцкага бальшавіцкага перавароту яго наагул ня было ў прыродзе; устаноўленая нат не адразу па гэным перавароце «рэвалюцыйная» бальшавіцкая цэнзура яшчэ не магла даваць рады нат з цэнзураваньнем газэтнага ды афішнага матар'ялу, якім вылучна й цікавілася; няма мовы ні аб бальшавіцкай ні наагул аб нейкай цэнзуры ў пэрыяд станаўленьня БНР у 1918 г.; але нат і пры друкаваньні канчатку «Сымона Музыкі» ў 1921 г., у выдаваным у падсавецкім Менску «Вольным Сьцягу», сталае й пільнае бальшавіцкае цэнзуры яшчэ ня было. У гэтым часе яшчэ зусім бесьперашкодна зьявіліся ў «Водгульлі» таго-ж Коласа ягоныя рэзкія антыбальшавіцкія выпады ў вершах «Беларускаму люду» й іншых, і толькі гісторыя з таго-ж характару Купалавым вершам «Перад будучыняй» адзначае сабою ўваход у дзеяньне ўжо сталай і хоць яшчэ няпрычэплівай, як пасьлей, а ўсё-ж ужо вельмі пільнай і штодалей, то ўсё больш намагальнай у сваіх патрабаваньнях бальшавіцкай цэнзуры. Купалава «Перад будучыняй» было выразана цэнзурай з ужо выйшлага ў продаж часапісу «Адраджэньне» ўлетку 1922 г., і ад гэтага мамэнту ўжо зьяўленьне аніводнага твору без папярэдняе цэнзуры сталася немагчымым. Пачаўшы ад практыкі гэткага выразаньня ці выкіданьня з абазначэньнем шматкроп'ем непрапушчаных мясьцінаў (як у Купалавай «Спадчыне» таго-ж 1922 г.), бальшавіцкая цэнзура аднак борзда перайшла да працы, сказаць-бы «пэдагагічнае» — да ціску на аўтараў у кірунку замены непажаданых мясьцінаў не да прапушчэньня мясьцінамі пажаданымі ці магчымымі. У гэткім стане й устабілізавалася бальшавіцкая цэнзура на колькі год, у гэткім стылі яна й дзеіла ў гадох стварэньня новае рэдакцыі «Сымона Музыкі».

Пры параўнаньні першае й новае рэдакцыі «Сымона Музыкі» найперш і кідаюцца ў вочы тыя мамэнты, якія ня могуць быць аднесеныя нікуды больш, як на рахунак дзеяньня бальшавіцкае цэнзуры ў ейным тагачасным стане. Сюды належыць найперш зьінаначаньне, а то й зьнікненьне тых мясьцінаў твору, у якіх у першай ягонай рэдакцыі ўжывалася тэрміналёгія, ад пачатку-ж абвешчаная бальшавікамі «нацыяналістычнай», а таму й нецэнзурнай. Мясьціны гэтыя канцэнтруюцца найбольш у разгледжаным намі ў сваім месцы вышэй уступе да III часткі паэмы зь ягоным нябывалым датуль у Коласа выбухам нацыяналізму. Тэрмін «Маскаль» тут зусім зьнікае (тымчасам як у ўспамінаным вышэй вершы «Беларускаму люду» ў тэксьце «Водгульля» яшчэ стаіць бязь зьменаў: «ведаем ціск Маскалёў»). Разам зь ім зьнікаюць часам цэлыя звароткі (як тая, дзе гаворыцца пра «змацаваньне Масквы на гэтых пажарышчах», або тая, дзе «і із нас душы ня выняў ні Маскаль, ні польскі пан»), часам-жа уводзяцца замены (на «ўрад царскі»: «І ўрад царскі самачынна» замеж ранейшага «і Маскаль тут самачынна...»; у разьвіцьці гэтае звароткі ў дзьве відаць, аднак, тэндэнцыя паэты ўзяць рэванш за выэлімінаванага «Маскаля», а мо й іншыя, зусім шчыркненыя звароткі) або пераробкі, пры якіх за кошт выэліміноўванага «Маскаля» разьдзьмухваецца фігура пакінутага адным «польскага пана» (у ўведзенай у рэдакцыі 1924 г. мясьціне супраць Рыскага падзелу Беларусі; мясьціна гэтая сваім часам сталася ведамай у некаторых менскіх навучальных установах, дзе тады выкладаў сам Колас; у друкаванай рэдакцыі 1925 г. заміж «паабапал ад мяжы» маем ужо «на захад ад мяжы», заміж «Лях ліхі, Маскаль паганы» — «пан пышлівы, надзіманы», заміж «ні пан, ні хам» — «ні пан, ні ксёндз» і пад.

Адылі, зьнікае ў паэме ня толькі тэрмін «Маскаль», але, як гэта ня дзіўна, і наагул тэрмін «чужынец» — там, дзе ён мае выразнае нацыяналістычнае адценьне. Гэтак, зусім зьнікаюць такія мясьціны першае рэдакцыі, як «І чаму я марна трачу між чужынцаў дні свае» і нат: «Як на тога чужаніцу, на яго глядзіць і лес»; выкідаюцца нат цэлыя мясьціны пра людзёў, якім «нож у сэрца пад чужую дудку граць», хоць гэты пропуск і стварае выразную прагаліну ў тэксьце. Як відаць, цэнзура ўжо была вельмі чулай да ўсякіх напамінак на ўсё чужынскае, як кіраваных калі ня вылучна, дык хоць часкава на бальшавіцкі адрыс.

Тэрмін «Жыд» яшчэ застаецца ў рэдакцыі 1925 г., надаваньне яму «нацыяналістычнага» й «антысэміцкага» характару пачалося крыху пасьлей, і ўжо ў выданьнях апошніх год (1946—1954) зьнікае ён: так, заміж ранейшага «адным словам, Жыд харошы» ўжо маем «адным словам, быў харошы» (гэта, здаецца, адзіная рэдакцыйная зьмена ў новых савецкіх выданьнях паэмы 1946 і 1952 г. г.).

Адылі, цэнзурнаму перарэдагаваньню падлягглі ня толькі мясьціны твору з нацыяналістычным адценьнем і тэрміналёгіяй. У куды большым памеры закранула яно мясьціны рэлігійнага характару, вельмі частыя ў першай рэдакцыі твору. Гэты шырака разьліты й кідкі ў вочы рэлігійны мамэнт «Сымона Музыкі» якраз і прыцягнуў да сябе найбольшую ўвагу

# Літаратурны Дадатак

УЛАДЗІМЕР СЯДУРА

## З раману „Вялікія Дарогі"

### Разьдзел III: Нечаканыя Госьці

(Заканчэньне з папярэдняга нумару)

— Як прозьвішча? ... Імя? ... Зь якой кватэры? ...

Атрымаўшы адказы, ды не знаходзячы мусіць лепшых словаў, каб распачаць выкананьне свайго заданьня, яны, як згаварыўшыся, абодвы накінуліся на яго з словамі дакору за нібыта парушаныя правілы зацямненьня.

Пачуўшы гэтыя закіды, Канстанцы яшчэ больш пасьмялеў. Ён добра ведаў, што ягоныя вокны зусім добра былі пазавешаныя таўстымі ватнімі коўдрамі (адмысловае сіняе паперы яшчэ не пасьпелі набыць для гэтае мэты). Акрамя таго, знадворныя вокны, што на вуліцу, пазачыняныя на вакяніцы. Ды дарэчы ўжо прайшло колькі часу, як ён наагул вылучыў сьвятло. Так што ніякай і адзнакі, ня тое што самога праменьчыка сьвятла, не магло выйсьці надворкі зь ягонае хаты. А суседзі з двух кватэраў доміку ўжо наагул даўно спалі й ніякага сьвятла ня было ўлучана. Што за ліха іх змушае чапляцца да таго, чаго няма і ня можа быць.

Аджа-ж у той момант ён усё яшчэ не здагадваўся, у чым палягала прычына іхняе візыты. Ён толькі рашуча запярэчыў, сьцьвярджаючы, што тут якраз у яго ўсё ў парадку. — І вокны завешаны, і сьвятло ня ўлучана.

— Можна зайсьці да Вас у кватэру? — азваўся адзін зь іх, відаць, старэйшы.

— А як-жа, калі ласка, заходзьце, — прагаварыў ён, паказваючы рукой кірунак.

Ён пайшоў уперадзе паказваць ім дарогу ў ягоную хату. Яны ішлі за ім крок у крок. Штосьці было злавеснае ў постуку іхных ботаў па бруку на панадворку па дарозе ў хату.

Прагрукацелі яны за ім і праз першую прыбудову да сянец, затым праз сенцы і нарэшце ўваліліся сьледам на кухню. Там, зірнуўшы на старога, як лунь, бацьку, што прачнуўся быў ад іхнага грукату ног і, улучыўшы адразу-ж сьвятло, хмурыўся ад ягонай рэзкасьці, не даючы яшчэ рады, што адбылося, пайшлі яны ў пакой ужо бяз папярэдняга запытаньня дазволу.

Напалоханая маці, прыўзьняўшыся на ложку, толькі і пасьпела праказаць балючым голасам:

— Ужо, ужо прыйшлі ... і як-бы на нейкі час заціхла, спрабуючы ўцяміць, што з гэтага будзе. Неўзабаве яна пачала пры іх-жа нацягваць на сябе вопратку.

Тут толькі, пры сьвятле, Канстанцы ўбачыў іхныя прыпухлыя бледныя твары з ухмылкай ад задаваленьня злоўленай рыбы. Старэйшы зь іх меў аж два ромбы на сваім каўняру і відаць быў у гэты адказны час мабілізаваны проста з габінэту сьледчае працы на гэтую апэратыўную, паважнейшую цяпер, працу вылоўліваньня небясьпечных элемэнтаў. Ды і другі, прыдадзены яму на дапамогу, таксама відаць быў у нейкім чыне, бо меў гэтак сама кубікі на каўняры ды новенькі бліскучы галаўны ўбор поверх гладка прычэсаных і намазаных валасоў.

З прычыны поўнае мабілізацыі ўсіх апэратыўных работнікаў, відаць, прышлося самім сьледчым ды іхнім практыкантам упрэгчыся ў гэтую чорную працу арыштоўваньня ворагаў. Не хапала ўжо для гэтае мэты ні чорных воранаў, ні звычайных аўтамабіляў, якімі звычайна ў мірныя часы езьдзілі за сваімі ахвярамі. Не з дабра пайшлі пехатой ... ды яшчэ не радавыя, а самі ахвіцэры, гэтак багата расплоджаныя хуткім павышэньнем за выслугі ў гэтай катняй працы.

Кінуўшы мімаходам пагляд на зьбянтэжаную старую і, відаць, ня хочучы выдаваць адразу мэты свайго неспадзяванага начнага наведаньня, старэйшы зь іх зноў пачаў з таго-ж, што і каля брамы:

— Чаму ў Вас зацямненьне не наладжана? Га?...

Канстанцы ўжо памкнуўся быў да вокнаў, каб давесьці, што яны ў іх зусім добра ўладжаныя ... Але тыя раптоўна перайшлі на іншы тон:

— Давайце Вашую зброю! ... як з гарматы выпаліў другі.

Тут толькі Канстанцаму раптам сталася зусім зразумелай і яснай мэта іхняе візыты. Гэтыя словы, як маланкай, прарэзалі ягоную сьведамасьць.

Нешта важкае абарвалася ў сярэдзіне, і ўсё там захаладзела ў нейкім шчыпячым, цягучым, доўгім, млосным болю.

Сэрца пачало паскорана стукаць у грудзёх.

— Дык вось яно што! — адразу бліснула зразуменьне сытуацыі, — гэта прыйшлі за мной.

Ён добра ведаў, што патрабаваньне аддаць зброю — гэта стары выпрабаваны спосаб пачаць вобшук з мэтай арышту. Толькі маці яшчэ не разумела гэтага і зьдзіўлена запярэчвала:

— А якая гэта ў нас зброя можа быць? Што Вы, адумайцеся, адвеку яе ня мелі.

— Мама, — перабіў яе Канстанцы — не пярэч, я табе мушу праўду сказаць, мяне, бачу, знайшлі небясьпечным і мусяць адаслаць далёка ў тыл паводля сяньняшняга ўрадавага загаду аб ізаляцыі палітычна-небясьпечных элемэнтаў. Ты ня турбуйся, нічога страшнага мне не пагражае, — з зразуменьнем, дзеля заспакаеньня маці, праказаў Канстанцы.

Адылі для маці праўда прагучэла зусім не заспакойліва. Якраз яна і вярнула яе да сьведамасьці бесспагаднага лёсу, што зноў навальваецца на яе сям'ю. Яна пачала ўжо была ўпадаць у галошаньне.

Тады і ў тых абудзілася нейкая спагада, відаць, праняло трохі і іх чужое сямейнае няшчасьце. І, каб як уцешыць яе, абодвы пачалі яе запэўніваць, што нічога, усё выясьніцца, зьвернецца яе сын дахаты.

(Далей на 5-ай балоне)

П. СЫЧ

## Лёрэтанскія званы

... Андрэй яшчэ раз падхапіўся і, прабегшы пару крокаў, рынуўся ў якісь равок. Была апошняя хвіліна, бо зараз-жа над ім загудзеў густы рой валавяных чмялёў. Цэлым пеклам нячысьцікаў завыла сэрыя нэбэльвэрфэраў. Андрэй зрабіўся плоскі, як блін, і ўсёй сілай мускулаў хацеў уліпнуць у зямлю. Як-жа ён хацеў, каб зь цела карэньні ўрасьлі ў сьцюдзёны грунт! Каб ня трэба было падымацца, каб ня чуць гэтага сьвісту, выцьця і трэску.

Ён баяўся, як і ўсе, бо няма такіх, што не баяцца сьмерці, залежыць толькі, як хто можа дзяржаць свае нэрвы ў руках, ад яго пачуцьця абавязку, эмацыянальнага стану. Ужо самая сьведамасьць фізычнага болю, калі зялеза будзе разрываць жывое цела — пужае дастаткова.

Такая зялёная, сьвежая трава ў раўку! Яшчэ навет сонца ня выпіла ўсей расы — так прыемна студзіць заліты потам твар! Ах, каб можна было цяпер заснуць! А трэба ісьці, падымаць жаўнераў, бо пакуль ён ляжыць, яны ня пойдуць. Трэба іх весьці ўперад, туды, дзе за насыпам у кустох злосна кашляе і плюе волавам спандаў і некалькі шмайсэраў.

На беразе раўка крывавіцца некалькі красак маку; рупны чмель увіхаецца на іх, як працавіты селянін на сваей гаспадарцы, і бубніць ціхенька. Яго вайна ня цікавіць, а валавяныя чмялі ня пужаюць. Вінаградная лаза чапляецца простага пня морвы, як кволая дзяўчына апіраецца на моцным плячы дзяцюка. Зьверху — эмалія неба і пякучае, ліпнёвае сонца.

Каб ня гэта сьмерць, што гудзіць над галавой!

З-з-з! — сэрыя волава загудзела так нізка над зямлёй, што аж краскі маку закалыхаліся мацней, а чмель, адарваўшыся ад іх, забурчэў злосна.

Нехта ззаду заенчыў страшна, другі нехта крыкнуў: «санітары!»

Ах, яшчэ на хвілінку прылажыць галаву да сьвежай травы! На кароткую хвіліну, напрыклад, пакуль далічыць да пяці, а пасьля бегчы ўперад ...

— Не, трэба падыймацца. Задоўга ляжу ...

Левую нагу падцягнуў пад грудзі, правай моцна ўпёрся ў зямлю, каб мацней адбіцца і шпарчэй скочыць.

Раптам недзе здалёку справа даляцела стройная мэлёдыя званоў. Андрэй агляьнуўся. Далёка, на высокім узгорку, на эмаляваным фоне неба сінеўся рэнэсансовы купал, а на ім постаць жанчыны. Ніжэй, паміж двума ўзгоркамі, блішчэў Адрыятык.

Дзіўны, быццам-бы з гэтага сьвету, супакой, мэлёдыяй званоў расходзіўся ад гэнага купала з статуяй Добрай Маткі на шчыце. Андрэй заглядзіўся ачараваны. Гэта нешта знаёмае, дзесьці бачанае. Калісь даўно на якімсь малюнку. Але дзе? Што гэта? Што гэта? Змучаны маршамі і акцыяй, ён мала зьвяртаў увагі, дзе ён быў. Дык цяпер кінуў вокам на карту: вось тут аб'ект, які ён мае здабываць, тут кірунак наступленьня, а што там на права?

Маленькія літаркі надпісу выкрычалі яму слова, знанае мільёнам сэрцаў і ў мільёнах сэрцаў знаходзячае водгук:

Лёрэто!

Дык гэта-ж слаўнае, цудоўнае Лёрэто!

І у тэй-жа хвіліне перад вачамі зьявіліся даўно забытыя вобразы, якія нат' ужо перасталі сьніцца ў гэтай бязьмежнай валацузе: вясковы, дзеравяны касьцёл паміж аграмадных ясеняў і таполяў. Вечаровыя багаслужбы ў траўні. У касьцеле пахне бэз, воск і кадзіла; у вячорную цёплую вусьціш вырываецца нястройны, але натхнёны і шчыры сьпеў вернікаў:

«... Аздараўленьне хворых,
Прыпынішча грэшных,
Пацеха сумных
Маліся за нас! ...»
І: «Тваей абароне аддаемся! ...»

Лёрэтанская літанія.

Пасьля: за зубатай чорнай сьцяной лесу тухнуць апошнія зоры. Вечар ап'яняе водырам бэзу і салаўінай песьняй. І душа, перапоўненая першым каханьнем і надзеяй шчасьця, пяець натхнёны гымн моладасьці і Залатавалосай Казцы ...

Андрэй глядзеў у захапленьні на купал цудоўнай сьвятыні, а вусны нясьведама, у такт званоў, шапталі даўно забытыя словы малітвы.

Новая артылерыйская кананада прыклікала яго да рэчаіснасьці.

— Божа! Я задоўга ляжу. Трэба ўперад!

А да насыпу, адкуль плююць волавам скарастрэлы, яшчэ больш ста мэтраў чыстым полем. Гэта сьмерць. А трэба. Абавязак!

Зноў прыгатаваўся скочыць і ўжо зьбіраўся крыкнуць: «За мной, наперад!» — раптам ззаду голас радыстага: «Затрымацца!» Зараз пачуўся глухі нарастаючы грукат.

Андрэй азірнуўся і аж крыкнуў з радасьці: на падмогу прыціснутай густым агнём пяхоце ішлі танкі. Церазь некалькі хвілін страшны раскудахтаны скарастрэламі вал замоўк.

Толькі справа разходзілася стройная, мяккая музыка Лёрэтанскіх званоў ...

---

бальшавіцкіх дзейнікаў дый выклікаў адпаведны ціск на аўтара, што й прывяло да адпаведных апэрацыяў у тэксьце твору. Пра гэта мы ўжо маем беспасярэдняе вельмі яскравае й цікавае сьветчаньне. Гэтак, у вадным з артыкулаў, які зьявіўся ў сувязі зь юбілеем Коласа ў 1926 г. (г. зн., яшчэ зусім на сьвежай пары пасьля зьяўленьня новае рэдакцыі «Сымона Музыкі») і спад пяра аднаго з выдатнейшых тымі часамі нацыянал-бальшавіцкіх функцыянераў у друку, Р. Шукевіча-Трацьцякова («Зь ціхай вады — на прасторы жыцьця» — адразу зьявіўся ў юбілейных нумарох газэтаў, а тады ў зборніку «Якуб Колас у літаратурнай крытыцы» таго-ж 1926 г.) былі адзначаныя ў якасьці галоўнай заганы першае рэдакцыі паэмы «ярка-рэлігійныя настроі самога аўтара», а пра апошнюю ейную рэдакцыю з здавальненьнем канстатавалася: «Пад уплывам марксыцкае крытыкі Я. Колас пераапрацаваў свайго „Сымона Музыку", зьмяніў яго канец, рашуча сьскінуў з Сымона раней аблытваўшую яго рэлігійную павуціну». Гэтае сьветчаньне надзвычай цікавае тым, што яно пацьвярджае якраз ціск бальшавіцкае цэнзуры на Коласа ў лёгка зашыфраваным выказе пра «ўплыў марксыцкае крытыкі». Рэч бо ў тым, што пра першую рэдакцыю паэмы крытыка выказалася адно ў васобах акад. Карскага (у ягоных «Беларусах») ды Максіма Гарэцкага (у віленскіх выданьнях ягонае «Гісторыі беларускае літаратуры»), але-ж ані Шукевіч-Трацьцякоў, ані наагул які адважны чалавек і не падумаў-бы залічаць іх да «марксыцкіх крытыкаў» (дый рэлігійны мамэнт «Сымона Музыкі» якраз дастаў у вабодвых высока пазытыўную ацэну); больш-жа наагул ніякае крытыкі, а «марксыцкае» пагатоў, у друку ня было. Значыцца, пад «марксыцкай крытыкаю» ў Шукевіча можна разумець адно крытыку ня ў друку, а для такое, ізноў-жа, ня было іншага месца, як толькі ў «галаўлітаўскіх» апартамэнтах бальшавіцкае цэнзуры, і адно гэткую «крытыку» якраз і мог мець наўвеце Шукевіч-Трацьцякоў, тымі часамі й сам вельмі абжылы ў гэных апартамэнтах.

Ад «марксыцкае крытыкі» антырэлігійна настаўленае бальшавіцкае цэнзуры пацярпелі цэлыя, дый немалыя, а мастацка высокаякасныя кавалкі Коласавага «Сымона Музыкі». Гэтак, найперш зьнік у разьдзеле V-ым часткі II-ой укладзены ў вусны Сымона натхненны гімн Богу-Тварцу, што пачынаўся радкамі:

Хто рассыпаў ў небе зоры
Без канца і бяз чысла?
І каму у тым прасторы
Ночка, дол, лясы і горы
Ў сьпевах кажуць —чэсьць, хвала?

Ён быў замененны на гімн зорам («Як прыгожа — павабны вы, зоры!»). Затое ўжо зусім бясьсьледна зьнікла, бяз усякае зьмены, адзначаная акад. Карскім «цэлая вялікая імправізацыя на 114 радкоў, укладзеная ў вусны Сымона, калі яму давялося граць у карчме перад уцёкамі зь яе (ч. III, р. IV)», дзе, паводля праф. Пятуховіча, «душа беларускага песьняра расчыняецца ў пачуцьці шчырае падзякі за радасьць адчуваньня ўсёй пекнасьці й прыгожасьці прыроды, і ён вуснамі Сымона пяе гымн космасу:

Радасьць Божую, сьветы, пазнайце ...
Абудзіся зямля, хвалі Бога ...
Асьвяціся і цьма, пазнай радасьць ...
Радуйся, неба — ўваскросьне зямля ...»

Асабліва высака ацэненая гэтая мясьціна Максімам Гарэцкім, як «выдатная па сіле пачуцьця й першая па характву ў нашай паэзіі ода Божай творчасьці, напісаная пад відам натхненнага граньня Сымонкі ў карчме („Божы дух вітаў у высі" ... ст. 142)». Гэтак цэлы й фактычна самастойны, асобны больш як стурадковы твор, што паводля аднагодных ацэны крытыкі станавіў сабою пэрлу ня толькі паэмы, але й усяе нашае паэзіі, быў брутальна выразаны зь яе й растаптаны так, што й цяпер цяжка аднавіць яго, пакольки, прынамся, на дадзены мамэнт, не ўдалося на эміграцыі знайсьці поўнага тэксту першае рэдакцыі «Сымона Музыкі» ...

Адылі, на гэтых вялікіх, замененых і незамененых купюрах справа не абмежылася: цэлы сьцяг драбнейшых мясьцінаў падпаў перарэдагаваньню, што нярэдка зьмянала сэнс іх на зусім адваротны, а часам і поўнаму выэлімінаваньню, часта, відавочна, адно толькі дзеля ўжываньня таксама ўжо ўважанае за нецэнзурную рэлігійнае тэрміналёгіі, асабліва гэтак ненавіджанага бальшавікамі слова «Бог». Пададзём тут колькі найбольш характэрных прыкладаў падобных апэрацыяў, нагэтулькі красамоўных, што не патрабуюць яны ніякіх камэнтараў, гаворачы самі за сябе:

| **Першая рэдакцыя паэмы:** | **Рэдакцыя 1925 г. і пасьля:** |
|---|---|
| Але ў Бога вер, і Богу<br>Ты заўсёды, браце, вер ... | Вер у бога, **але** богу<br>**Не** заўсёды, браце, вер ... |
| Сам **Бог,** мусіць, для спакусы<br>Гэты край наш адзначаў ... | Сам **лёс,** мусіць, для спакусы<br>Гэты край наш адзначаў ... |
| **Бог** на то і розум даў,<br>Каб загадкі, што спрадвеку<br>Ў кнігі чорныя ўпісаў,<br>Хтось рукою няўчытанай<br>І прыбіў на іх пячаць,<br>Мог ён сілай, **Богам** данай,<br>Адгадаць і разгадаць ... | І той розум, хлопча, дан,<br>Каб ён мог зганяць туман,<br>Што гняце яго спрадвеку,<br>І каб змог ён, позна-рана,<br>Зьняць няведаньня пячаць,<br>А той напіс няўчытаны<br>Растлумачыць, адгадаць ... |
| — Эге-ж, хлопча: не забыта<br>**Богам** праўда на зямлі ... | Эге-ж, хлопча, не забыта<br>**Тая** праўда на зямлі ... |
| Ёсьць **Божае** волі законы ... | **Разумнае** волі законы ... |
| — **Божа!** дзе я? Што са мною? .. | – **Тфу ты, ліха!** Што са мною?.. |
| Казкі — зьявішчы дарогі!<br>Колькі мар ў далячыне!<br>Хай-жа Бог цаліць вас, ногі,<br>Што вы носіце мяне! | Выкінута зусім |

Пад «рэлігійную тэрміналёгію», апрача слова «Бог» і вытворных, падпадала, як відаць, нат такое слова, як «сьвяты», бо ў чыста народным і прыгожым выразе «лецейка **сьвятое»** апошняе слова, бяз усякае іншае відавочнае прычыны, падлегла замене на «любое» — у дадзеным выпадку зусім бескаляровае, дый яшчэ націскава скалечанае, з магчымасьцяй непатрэбных асацыяцыяў ... Выдавецтва-ж паэмы — Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва — як відаць, мела яшчэ большыя асьцярогі ў дадзеным кірунку, чымся цэнзура, бо ў вадмысловай прадмове, якой забясьпечвала яно першае выданьне новае рэдакцыі паэмы ў 1925 г., сьпяшалася «застрахавацца», як гэта кажацца ў бальшавікоў у падобных разох, ад прыйманьня за рэлігійную тэрміналёгію» й цэлага сьцягу іншых словаў, апраўдальна тлумачачы іх як «чыста народныя вобразы й мэтафарычныя выслоўі, як, напр., здань, душа, лясун, русалка, лёс і інш.» (гэтак нат і той «лёс», на які Колас замяняў «Бога», выдаваўся ня зусім бясьпечным выдавецтву ...).

Гэтак выглядаюць дзьве галоўныя й вялікія групы тэкстуальных перарэдагаваньняў у «Сымоне Музыку», выразна спрычыненых «уплывам марксыцкае крытыкі», г. зн. ціскам бальшавіцкае цэнзуры. Можна было-б знайсьці ў паэме й яшчэ сьцяг перарэдагаваньняў таго-ж парадку й паходжаньня, толькі іншых зьместаў сьціраваньня, але гэта ўжо былі-б больш паадзіночныя, раськіданыя, дробныя й менш характэрныя выпадкі. Зь іх, дзеля найбольш яскравага прыкладу, можна адзначыць мясьцінку яшчэ зь І часткі паэмы, дзе перарэдагаваньню падлегла выказваньне ўжо не нацыянальнага ці рэлігійнага, а чыста сацыяльнага сэнсу, у якім, відаць, быў згледжаны антыкалектывізм, як, пэўна-ж, таксама «нецэнзурны» для бальшавіцкае цэнзуры мамэнт, і з ранейшага «бо ў гурце кепска жыць» першае рэдакцыі выйшла прынамся нэўтральнае «бо так лепей было жыць» рэдакцыі апошняе. Магчыма, што поўнае й дакладнае тэксталёгічнае параўнаньне абедзьвюх рэдакцыяў паэмы, дзеля якога не стае цяпер поўнага тэксту ейнае першае рэдакцыі, магло-б даць і яшчэ колькі ня менш яскравых прыкладаў ды дапоўніць накіданы намі абраз, але й бяз гэткае, нажаль, немагчымае яшчэ дэталізацыі ён і ў сваім агульным выдаецца больш як досыць красамоўным.

Адылі, як відаць із пададзенага вышэй сьветчаньня Р. Шукевіча-Трацьцякова, «уплыў марксыцкае крытыкі» — ціск бальшавіцкае цэнзуры спрычыніў і больш грунтоўныя, чымся толькі адны тэкстуальныя зьмены ў «Сымоне Музыку», бо «зьмяніў яго канец» — гэта значыць, ужо мамэнт структуральны, канкрэтна-сюжэтны (і прытым завяршальнага характару), а ня тэкстуальны толькі. На гэтых, вельмі цікавых зьменах і трэба цяпер спыніцца асобна й падрабязьней.

(Далей будзе)

# Цела склецілі, а душы ня удзьмухнуць

У папярэднім нумары «Бацькаўшчыны», сваім «Жахлівы быў год», Я. Менскі даў яркі абразок калектывізацыі Беларусі ў 30-х гадох. Канчаючы свой артыкул, аўтар падсумоўвае: «Ніякімі спосабамі не ўдалося бальшавіком зрадніць нашага селяніна з калгасамі, варожасьць да якіх гэтак зырка была выявілася ў часе апошняй вайны.»

Сьцьверджаньне правільнае. Дзеля большае выразнасьці й канкрэтнасьці зьілюструем яго колькімі штрыхамі зь беларускае калгаснае цяперашчыны. Вось-жа, пачынаючы ад гэнага «жахлівага», і ня гледзячы на ўвесь свой далейшы жах, гады ня прыцьмілі зыркасьці антыкалгасных настрояў. Варожасьць да калгасаў мяняла толькі форму сваю, залежна ад абставінаў, у якія трапляла Беларусь, і адным зь ейных заўсёдных складнікаў быў найвыгаднейшы ў сваёй форме і найэфэктоўнейшы ў сваіх выніках — go slow strike.

Змаганьне йдзе зацятае й вырашальнае, за якое няма далейшага ходу. З аднаго боку беларуская сялянская маса із здаровым інстынктам ды зь нязломнай воляй пераЖыць, не паддаецца; з другога — ненасытная дзяржава і разгадаваная ёю плойма пражэрлівых бюракратаў, узброеных паліцыйным апаратам. Два асілкі схапіліся моцна загрудкі. Селянін бароніцца. Аб адчаі абароны сьветчыць самая тактыка абароны — самая радыкальная, тактыка спусташэньня, якая ці раз практыкавалася на беларускай зямлі. Ухіленьнем ад працы, выконваньнем мінімуму, работай на «абы з рук збыць», нядбайнасьцяй аб казённым інвэнтары беларускае насельніцтва ні на часіну ня пераставала пратэставаць супраць калгаснае дарэмшчыны працы. Няўхільным і беспасрэдным наступствам гэткага пратэсту ёсьць зьніжэньне жыцьцёвага ўзроўню насельніцтва, а ўзровень гэты, у сваю чаргу, паказвае на сілу самога супраціву.

Бальшавікі дбаюць аб рэкляму й дацэньваюць ейную ролю. У іх заўсёды ёсьць нешта на паказ. З калгаснай дзялянкі, акрамя пустаслоўя, яны маюць таксама й пару калгасаў для казыраньня перад сваімі й чужымі. Пару, ня больш, якім, як гэнаму Стаханаву, ствараюцца адпаведныя ўмовы, каб даць пасьля ў рукі прапагандзе добры канчур для бічаваньня. Але-ж гэта прымітыўны трык! Узбуйненых калгасаў на Беларусі больш за 5 тысяч, і калі па ўсіх газэтах, часапісах і па радыё ўсьцяж расьпісваецца прыкладам калгас «Расьсьвет» Кіраўскага раёну (ды яшчэ пару ягоных сяброў-«шчасьліўцаў»), дык ясна зь якой мэтай гэта робіцца. Унутры загарадзі гэта мае значыць: «старайцеся, а й вам так добра будзе»; навонкі-ж гэта мае быць даведка аб «шчасьлівым калгасным жыцьці». Аб «дабрабыце» рэшты калгасьнікаў цяжка пачуць што-небудзь канкрэтнага. Толькі час-часом цэнтральны ворган ЦК ці менскае радыё паведамляюць — з патосам, крыкам, як аб падзеях на Фармозе — што таму ці іншаму калгасьніку ўдалося набыць сабе швэйную машыну ці ніклёвы ложак або паслухаць з радыёкропкі (г. зн. цераз заінсталяваны галосьнік) трансляваную Менскам Маскву.

Аднак не паказныя калгасы тыпу «Расьсьвет» адлюстроўваюць запраўдны стан беларускага сялянства. Жорсткасьць нядолі й змаганьня гэтага апошняга ляжыць у рэшце калгасаў, пра якія прапаганда маўчыць настойліва, і да якіх належыць надыбаны прыпадкова намі вобраз калгасу Тураўскага раёну Гомельскай вобласьці, гіранічна названага калгасам «Новае жыцьцё». Тыпічны калгас! Аднак трэба адразу заўважыць, што да найгоршых ён не належыць. Папершае, таму, што гэта — калгас-«мільянэр», якімі прапаганда апошнімі часамі бесьперапынна хваліцца, і да якіх залічвае, пэўна-ж, усё найлепшае з благога; а падругое, што на балонкі «Зьвязды», як і наагул усяе цэнзураванае савецкае прэсы, трапляюць толькі рэчы «з прапускамі» — рэчы, аб якіх можна гаварыць уголас, уважаючы, што «дыктатуры пралетарыяту» яны не кампрамітуюць.

Ніжэй падаем (паводля «Зьвязды» з 4. 1. 55) прыблізную фатаграфію калгасу «Новае жыцьцё», калгасу-«серадьнячка» (хоць і «мільянэра»!), з усёй упэўненасьцяй дапушчаючы існаваньне цэлага шэрагу калгасаў-«батракоў» і проста «жабракоў».

Спэцыяльны карэспандэнт «Зьвязды», А. Матусэвіч, піша:

**«Крыўда даяркі Марыі Рабірох.**

«Марыя Рабірох — перадавая даярка сельгасарцелі „Новае жыцьцё" — не магла больш мірыцца з абыякавымі адносінамі МТС і кіраўніцтва калгасу да ўтрыманьня жывёлы.

« — Не магу я больш маўчаць! — абуралася жанчына. — **Каб гэта ў нас, у калгасе-мільянэры, ды статак стаяў у гразі!** (Падкрэсьленьні нашыя — А. Б.) **Два гады, як устанавілі аўтапаілкі, а каровы зь іх яшчэ ні разу не папілі вады. Коні гульма-гуляюць, а прывезьці падсьцілкі каровам няма каму.**

«Магчымасьці для гэтага (для паляпшэньня зімовага ўтрыманьня жывёлы) ў „Новым жыцьці" вялікія. Дастаткова сказаць, што на кажную галаву буйнае рагатае жывёлы тут прыпадае больш за два гактары сенажацяў і пашы. У калгасе ёсьць і заліўныя лугі, і добрыя мінэральныя глебы для вырошчваньня высокіх ураджаяў самых разнастайных кармавых культур. **А пакуль кармоў не хапае, бо ўпарадкаваньнем лугоў ніхто не займаецца. 600 гэктараў самых лепшых сенажацяў калгасу ўсё яшчэ пакрыты зарасьнікам, лазой.**

«Фармальна ў калгасе ўведзены кармавы севазварот... Але травы ня сеялі-ся, і дойны статак не атрымліваў зялёнай падкормкі ні раньняй вясной, ні ўлетку.

« — Цяжкавата сёлета будзе з грубымі кармамі, — у вадзін голас заяўляюць даяркі. — Летась нарыхтавалі 2 тысячы тон сена, а сёлета няма і палавіны таго. Адна надзея на бульбу й сечку.

«Але варта толькі раз прайсьціся па кароўніках калгасу „Новае жыцьцё", каб пераканацца, што кармы тут не берагуцца. На кормакухні ўтоптваюцца ў гразь пасечаныя буракі, ля карытаў і ў праходах кароўнікаў ляжаць кучы парассыпанай сечкі й амецьця, на дне кармушак валяецца недаедзены грубы корм. Даглядчыкі выбіраюць яго й кідаюць жывёле пад ногі.

« — Мо гэты корм прапусьціць праз сячкарню і ў выглядзе сечкі скарміць жывёле?

« — А ці варта гэтым займацца? — гаворыць загадчык фэрмы. — Усё роўна каровам нешта трэба падсьцілаць...

«Добрыя меркаваньні былі ў кіраўнікоў Тураўскай МТС у пачатку мінулага году. Яны плянавалі мэханізаваць падачу вады ў шасьці калгасах, у кароўніках трох сельгасарцеляў устанавіць аўтапаілкі, у двух — наладзіць мэханізаванае даеньне кароў.

« — Але гэта толькі пляны, — прызнаецца старшы мэханік МТС тав. Рудэнка. — Плянавалася многае, а пакуль **ні ў вадным калгасе няма мэханізаванай перапрацоўкі кармоў і падачы вады на фэрмы, нідзе не наладжана і мэханічнае даеньне кароў.**

«Аднойчы тав. Рудэнка запрапанаваў праўленьню перадавога ў раёне калгасу „Перамога" набыць аўтапаілкі для ўстаноўкі ў новым кароўніку.

« — Што вы ўчапіліся за аўтапаілкі? — адказаў яму старшыня калгасу, вэтэрынарны ўрач (?!) тав. Чорны. — **Ты мне прыдумай такую машыну, каб сена давала, а вады ў нас хопіць і ў Прыпяці.**

«Трэба сказаць, што пытаньнямі паляпшэньня ўтрыманьня жывёлы мала займаюцца і раённыя партыйныя і савецкія арганізацыі. У многіх калгасах статак стаіць у цесных сырых і брудных памешканьнях, ён не атрымлівае дастатковай колькасьці пажыўных кармоў, поіцца як папала. **Прыйшла зіма, а ў калгасе імя Калініна няма дзе разьмяшчаць сьвіньней, і яны вымушаны стаяць па калені ў гразі або цэлы дзень снаваць па дварэ. І гэта ў калгасе, які лічыцца ў раёне перадавым і дзе для будаўніцтва жывёлагадоўчых памешканьняў ёсьць і сродкі, і людзі.**

«У тым-жа калгасе „Новае жыцьцё", дзе колькасьць жывёлы за апошні год узрасла, а грашовыя прыбыткі ад яе падвоіліся, штаты даглядчыкаў ніколькі не павялічыліся. Слабае заахвочваньне жывёлаводаў і дрэнныя ўмовы працы на фэрмах прывялі да таго, што **людзі не жадаюць сюды ісьці працаваць.»**

А каб-жа па Беларусі прайшоўся цяпер так з канца з торбай за плячыма ды глянуў на гэныя калгасы не вачыма спэцкарэспандэнта «Зьвязды», а вачыма звычайнага чалавека, які ўсё хоча ўбачыць. Ні словам расказаць, ні пяром апісаць...

І ўсё гэтае зло пачынаецца з аднаго канца. Яно закладзена на самым дне калгаснага насільля і ўсяе бюракратычнае савецкае дзяржавы. Яно ляжыць у самой сутнасьці прымусовае працы й наагул эксплятацыйнае эканамічнае палітыкі, практыкаванае на Беларусі ад самага пачатку ейнага падбою.

Беларуская савецкая дзяржава карыстаецца ў калгасьнікаў поўнай узаемнасьцяй пачуцьцяў — як пан Дзямяну, так і Дзямян пану. І хоць беларускі селянін добра здае сабе справу, што на гэтым «дар за дар» і ён сам церпіць, аднак за аплявухі ён другое шчакі не падстаўляе. Няхай сьвіньні на дварэ ў гразі зімуюць: усяроўна скварак зь іх не наясіся.

Беларускі калгасьнік задавольваецца мінімумам — да гэтага прывучыла яго за доўгія гады партыя з урадам. А рэшта няхай падыхае: і сьвіньні, і каровы разам з аўтапаілкамі...

Тармажэньне беларускім сялянствам далейшага разьвіцьця сельскае гаспадаркі набірае стыхійных разьмераў. ЦК прыймае пастановы аб уздыме працоўнае дысцыпліны, мабілізуе ўсе рэзэрвы агітатараў, угаворвае й пагражае, аднак сытуацыя й надалей застаецца безнадзейная — «людзі не жадаюць ісьці працаваць», піша да ведама ЦК тав. Матусэвіч. Так, і ня будуць працаваць.

Зрадненьня беларускага селяніна з калгасам не дасягне найжахлівейшы тэрор. Камуністычныя бажкі, хоць з натугай, ды склецілі цела, затое-ж душы ў яго ніяк ня ўдзьмухнуць. Довадам гэтае бяздольнасьці служаць нам жахлівыя гады экспэрымэнтаў і гэткі-ж жахлівы стан сучаснае беларускае гаспадаркі.

**А. Будзіч**

# Сумлеваў быць ня можа

**(Заканчэньне з 2-ой балоны)**

...нага эміґранта ці групы эміґрантаў, бо карысьць для справы агульнай мы павінны ставіць вышэй за спрычыненую ёй шкоду асабістую, тым болей, што шкода гэтая не такая ўжо вялікая.

Зразумела, праблема, якую мы тут разважаем, зьяўляецца вельмі складанай і скамплікаванай. Да ўсіх нашых суродзічаў на эміграцыі мы ня можам прыкладаць аднэй і тэй самай меркі. Мы ня зьбіраемся, як патэтычна заяўляе аўтар «Сумлеваў», «кідаць каменем пагарды ў тых» слабейшых, «хто ня мае больш ані сілы, ані цярплівасьці сядзець гадамі на чамаданах і распакуецца». Але таксама ня зьбіраемся ламаць кап'я ў вабароне іхнага «распакоўваньня». Мы ня думаем абвінавачваць, прыкладам, беларускага селяніна, які, выэміграваўшы ў Амэрыку ці Канаду, прыйме там, пасьля прадбачанага законам тэрміну, амэрыканскае ці канадыйскае грамадзянства. Але затое мы поўнасьцю згодныя з А. Будзічам, аўтарам артыкулу «Ці маем права?» («Бацькаўшчына» № 47—48, 1954 г.), які, апраўдваючы «распакоўваньне» тых нашых суродзічаў, што «ніколі ня ўзьнімаліся да вышыні поўнае сьведамасьці патрэбы й слушнасьці нацыянальнага адраджэньня» або што «лічаць сябе толькі Беларусамі», аб катэгорыі людзей, да якой прэтэндуем мы, піша: **«Але тым, што былі ўжо раз у поўнай сьведамасьці на перадавых нацыянальных пазыцыях, а цяпер расьсядаюцца — „распакоўваюцца" з усім сваім псыхалягічным багажом, тым ня можа быць ніякага апраўданьня, бо тады апраўдаўся-б сам прынцып бясхрыбетнасьці, шкурніцтва й нацыянальнае зрады»** (падчыркнута намі — Я. К.).

Нельга не згадзіцца таксама з Ул. Нямановічам, аўтарам глыбока прадуманага артыкулу «Сумлевы й пэўнасьць» (Бацькаўшчына» № 3, 1955 г.), што паколькі можам апраўдаць селяніна эміґранта і навет інтэлігента, дзеяча навукі, які, прыняўшы чужое грамадзянства, гэтым толькі можа аблягчыць сваю і іншых дзейнасьць, прыносячы падвойную карысьць, дык для **«палітычных працаўнікоў, якія хочаць уплываць на падзеі тут і пасьля на Бацькаўшчыне, гэты шлях выключаны безапэляцыйна»** (падчыркнута намі — Я. К.). Прыведзены ім прыклад аб недапушчальнасьці «факту сяброўства Рады БНР людзей чужой дзяржаўнай прыналежнасьці», як ня трэба лепей, даводзіць ягоную тэзу.

Вельмі трапна зацеміў Нямановіч, што Будзіч, бяручы справу «распакоўваньня» ў двух розных аспэктах — матарыяльным і псыхалягічным, і на першы адказваючы «так», а на другі — «не», усю праблему значна ўпрасьціў. Бо нельга запярэчыць таму-ж Нямановічу, што матарыяльнае й псыхалягічнае «распакаваньне» «не зьяўляюцца самастойнымі, а **дзьвюма стадыямі аднаго й таго-ж працэсу».**

Ня гледзячы на ўсю далікатнасьць і скамплікаванасьць праблемы, месца на сумлевы не астаецца. Калі некаторыя катэгорыі нашых суродзічаў мы і павінны апраўдваць за іхнае псыхалягічнае «распакоўваньне», як няўхільнае і ад іх саміх незалежнае зло, і апрабаваць «распакоўваньне» матарыяльнае, хоць у выніку яно вядзе да псыхалягічнага, дык усімі даступнымі нам спосабамі мы павінны змагацца зь іхным «распакоўваньнем» псыхалягічным із сьведамасьцю, што хаця ягонага працэсу не адхілім, але яго значна можам аддаліць. Што-ж датычыць тых, якія прэтэндуюць да ролі палітычных дзеячоў або ролю гэтую раней выконвалі, дык усякае іхнае «распакоўваньне» мусім уважаць за зьявішча бясспрэчна нэгатыўнае і яму супраць-дзеіць.

**Язэп Каранеўскі**

# Ці затрушаны агонь?

**(Заканчэньне з 3-яй балоны)**

Мае рацыю генэрал Айзэнгаўэр у вацэнцы сытуацыі ці не, спрачацца ня будзем, але важна ня гэта: у канцы канцоў, навет 50 год гігантычных затрат народных сродкаў на ўзбраеньне зьяўляецца ня вельмі дарагой цаной за выратаваньне мільёнаў людзей ад атамнай пагібелі. Але тут ёсьць іншая праблема, тая, на якую мы ўжо вышэй паказвалі, а аб каторай нам ужо ня раз прыходзілася пісаць. Такое суіснаваньне на прынцыпе бесьперапыннага ўзбраеньня магчымае і мае сэнс толькі пры ўмове, што дэмаркацыйная лінія між абодвымі лягерамі ў васнаўным захаваецца нязьменнай. Калі-ж, у працэсе гэтага «халоднага міру», як маршал Монтгомэры ўдала выразіўся, адзін бок будзе ўсё глыбей пранікаць ў найбольш важныя стратэгічныя пазыцыі другога боку, і «адгрызаць» адную тэрыторыю за другой, дык тэорыя мірнага суіснаваньня губляе свой сэнс для таго лягеру, які гістарычна знаходзіцца ў стане абароны. Ясна, другі бок супраць такога суіснаваньня ня будзе нічога мець і будзе толькі шчасьлівым, калі яму дадуць магчымасьць дзесяцігодзьдзямі бяскарна расшыраць сваю сфэру і той бок, што бароніцца, заганяць супраць яго «мірнай» экспансіі ўсё больш і больш у бязвыхадны завулак.

Ня прыходзіцца дзівіцца, што камуністычны блёк у гэтых умовах гарыць жаданьнем суіснаваньня і слухаць ня хоча аб вайне, і выступае ў ролі апостала вечнага міру. Але зусім у іншым палажэньні дэмакратычны лягер! І таму ён павінен рэарганізаваць і перабудаваць ня толькі сваю сыстэму ваеннай абароны, але і ўсе мэтады сваей дыпляматыі, і сваю сыстэму псыхалягічнай вайны.

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ».**

# З раману „Вялікія Дарогі"

**(Заканчэньне з 4-ай балоны)**

Тым часам відаць было, што часу яны мелі не багата, стараннага вобшуку рабіць не маглі, трэба было йсьці шмат каго яшчэ арыштоўваць. Таму насьпех акінуўшы павярхоўным зрокам пакой, запатрабавалі пашпарт ды іншыя дакуманты. Канстанцы сьхітрыў, — пашпарт даў, а вайсковы білет надумаўся ўтоіць, каб хоць штонебудзь на будучае захавалася. Сказаў, што ў установе пакінуў, — хаця-ж той і ляжаў за кнігамі тут-жа на стале.

— А што за кнігі маеце?

— Калі ласка, глядзіце, вось яны ўсе тут на стале, — упэўнена і сьмела прагаварыў ён. Ведаў, што на стале ў яго колькі кніжок найноўшых выданьняў у расейскай мове па моваведзе, якія ня могуць ніяк быць аднесеныя да забароненых і ня могуць яго нічым скампрамітаваць нат у ваччу гэтакіх пільных змагароў супраць усялякае крамолы і адхіленьняў.

І запраўды, яны толькі абыякава перагарнулі зь дзьве—тры першых, што трапілі ім у рукі, ды адразу пакінулі займацца нявартасным зь іх гледзішча матар'ялам.

— А Вы другое якое літаратуры ня маеце, старых выданьняў, беларускіх кніжак?

— Не, ня маю — схлусіў Канстанцы, бачачы іх сьпешку і неахвоту пароцца па кутках.

Падбадзёраны ўдачай з утоеным вайсковым білетам, ён спадзяваўся, што шукаць ня будуць. А ў самога аж ёкнула ў душы, бо ўраз прыгадалася яму цэлая паліца кніжак старых выданьняў і прыхаваных на кухні высока пад самай стольлю, пад пажоўклай, укрытай густым пылам паперай, да якое ён сам ужо колькі гадоў не дакранаўся. Гэта там перахоўваліся многія сотні кніжак, набытых праз гады студэнцкага жыцьця, калі ён сьпяшаўся купіць кажнае беларускае выданьне, як-бы баючыся, што неўзабаве яго ня будзе — забароняць. А яно гэтак і было ад 1930 г. Не пасьпее кніга выйсьці, як ужо ў «Зьвяздзе» або ў якой іншай газэце яе ўжо вінавацяць ў нацыянал-дэмакратычным ухіле. Гэта значыла, што будзе яна неўзабаве забароненая. Справа толькі ў часе — пакуль бюракратычны апарат Наркамасьветы або Главўліту выдасьць загад аб забароне. І кажны, сьведамы нацыянальных інтарэсаў і з пачуцьцём болю за разбурэньне роднае культуры, сьпяшаўся купіць гэтую кнігу. Купіць, пакуль яшчэ яе ня зьнялі з магазынавае паліцы ды як забароненую ня выкінулі на ўтыль-паперу.

Гэтак было з усімі акадэмічнымі выданьнямі калішняга Інстытуту Беларускае Культуры, пазьнейшай Акадэміі Навук Беларусі, або з творамі беларускіх пісьменьнікаў, якіх што два—тры гады арыштоўвалі цэлымі пачкамі і кнігі якіх пасьля зьнікалі з прадажы.

Канстанцы ня прапушчаў ніякае нагоды, калі заводзілася якая капейка ці то ад свае студэнцкае стыпэндыі ці то ад першых сваіх невялічкіх ганарараў, і абавязкава заўсёды з гораду дахаты ўжо валок партфэль, набіты даверху кнігамі.

А тады, калі лепшы беларускі літаратурна-мастацкі часапіс «Узвышша» ўжо скрозь у друку разносіўся, як кулацка-буржуазны, але яшчэ разам з тым льга было на складзе танна купіць цэлыя камплеты яго за ўсе мінулыя гады, Канстанцы не прапусьціў нагоды набыць яго. Аднаго разу заплаціў у канторы якуюсь злыбяду, сьціраваўся з квітанцыяй на склад.

Старэнькі вартаўнік адчыніў яму дзьверы ў якуюсь хлева-падобную будыніну і прапанаваў падбіраць самому — яму старому не да гэтага. Перад вачыма ляжала цэлая гара бязь ніякага ладу і парадку. Відаць, ужо ссыпалі іх сюды, каб перадаць па часе на ўтыль-паперу. Забалела ў Канстанцага сэрца па гэтых здабытках роднае культуры. От-жа бярэ ён вялізарны мяшок, адбірае сабе спачатку поўныя камплеты. Тыя толькі дно ледзь пакрылі. Тады адбірае кажнага нумару па колькі нумароў, насыпае цэлы мех і валочыць дахаты.

— Няхай перахоўваецца, — думае сам, — на асалоду аматарам прыгожае літаратуры ў прышласьці. Нашчадкі ўдзячныя будуць за перахаваньне. Гэта-ж непаўторныя здабыткі нашае культуры, багацьці нашае нацыянальнае душы, россыпы дум лепшых мазгоў нашага народу, ягонага цьвету.

Таму пазьней пазайздросьціць Канстанцавай калекцыі кніжак зь беларусаведы маглі нат дзе-якія дзяржаўныя бібліятэкі, якія ў часы пагрому на беларускую культуру, у часе дзеяньня срогіх прадпісаньняў аб забароненых кнігах, панішчылі бальшыню сваіх кніжных багацьцяў.

У гады выгнаньня з бацькаўшчыны Канстанцаў кнігазбор перахоўваўся ў ягоных старых бацькоў, невядомых афіцыйным колам асобаў. Таму пад пластом пылу і пад пажоўклай паперай і праляжалі ў бясьпецы гэтыя пэрлы беларускага кніжніцтва, і за іх асабліва балюча было-б Канстанцаму, каб ім пагражала якая-небудзь небясьпека.

Адылі на гэты раз агентам НКВД было ні да гэтага. Пацікавіліся яшчэ толькі, ці няма якіх трацкістаўскіх кніжак (а на паліцы якраз і гэткіх было там нямала, нат творы самога Троцкага «Литература и революция», асобныя тамы збору ягоных твораў ды творы Бухарына ляжалі сярод іншых дзеля цікавасьці перахаваныя). Але, атрымаўшы адмоўны адказ, адразу перайшлі да фармальнае працэдуры. Яны прапанавалі суседцы з-за сьцяны прыйсьці за панятую і падпісаць пратакол вобшуку. А тады загадалі Канстанцаму зьбірацца ды йсьці зь імі.

Тут толькі Канстанцы ўспомніў, што мусяць-жа яны прад'явіць афіцыйны ордар на арышт, ды запытаў іх пра гэтае.

— Нічога, зьбірайцеся, хутка вернецеся. А калі ўжо так хочаце гэтага, дык калі ласка: — і яны, ня выпушчаючы з сваіх рук, паказалі яму якісь цэталь паперы. Толькі і пасьпеў заўважыць друкаваны назоў — «ОРДЕР НА АРЕСТ», а ніжэй ужо атрамантам упісанае ягонае прозьвішча і імя, але гэтак нявыразна, якімісь каракулямі, што ледзь-ледзь можна было дайсьці, што гэта яго датычыць. Што да адрасу, то не пасьпеў ён і ўгледзець яго сярод якіхсьці знакаў там.

— Вось падпішыце пратакол вобшуку ды пойдзем, — праказаў старэйшы. —

— Час ня церпіць.

**(Далей будзе)**

